ГРАМАДЗЯНСКІЯ ІНІЦЫЯТЫВЫ
№7, КАСТРЫЧНІК 2012
ВЫДАЕЦЦА З 1997 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

ДАТЫ

# Гарошкаў: сьвята у гонар паэта й першага жыцьцялюба

27 кастрычніка ў вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёну восьмы раз ладзілася традыцыйнае сьвята беларускай паэзіі ў гонар Анатоля Сыса пад назвай: «Дух — гэта, людзі, Я!».

Сьвята прымеркавана да дня народзінаў слыннага беларускага паэта, які нарадзіўся 26 кастрычніка 1959 году й заўчасна памёр у траўні 2005-га.

Родныя й землякі, вядомыя беларускія паэты й пісьменьнікі Анатоль Вярцінскі, Барыс Пятровіч, Алесь Пашкевіч, Эдуард Акулін, Анатоль Бароўскі, Ларыса Раманава, Сяржук Сыс, Вадзім Болбас, Генадзь Лапацін, а таксама барды й гісторыкі наведалі магілу паэта пад жоўтымі бярозамі на гарошкаўскіх могілках.

Да помніка паэту, высечанага з граніту скульптарам Генікам Лойкам, ляглі жывыя восеньскія кветкі.

Адкрываючы імпрэзу, старэйшы беларускі паэт Анатоль Вярцінскі сказаў, што ягоны цёзка й сабрат па пяры Анатоль Сыс быў «слаўным беларусам, выдатным паэтам, грамадзянінам і патрыётам». І працягнуў: «Некалі Анатолю гэтыя могілкі мроіліся як Гарошкаўскі рай. І называў іх Анатоль «запаветным гаем». Пра іх напісаў верш і Эдуард Акулін: «Ах, якія могілкі прыгожыя на радзіме Толіка Сыса».





Вярцінскі прачытаў малітву: «Супакой, Госпадзі, душу памерлага сына зямлі беларускай, слугі Гасподня Анатоля ў месцы сьветлым, у месцы радасным, у месцы спакойным, дзе няма ўжо ні болю, ні суму, ні плачу. Але жыцьцё бясконцае — вечнае. І тут мне згадваецца верш, які ты, Анатоль, відаць, прадчуваў у падсьвядомасьці і потым пісаў, можа, у сваю самую адчайную хвіліну:

«Беларусь мая, мая магіла,
зь бел-чырвона-белага радна
ці кашулю мне на сьмерць пашыла
Беларусь мая, мая магіла,
ты ж адна у мяне, як ёсьць адна».

Вярцінскі перакананы, што ягоны цёзка меў на ўвазе Беларусь ня толькі як магілу, але й як калыску, каханку, дзе нараджаюцца

>>> 2






дзеці, дзе ёсьць месца працы й застольлю. Ён бачыў Беларусь новай, вольнай і шчасьлівай.

Пазьней на панадворку роднай хаты Сыса аксакал беларускай паэзіі Вярцінскі дадасьць, што Анатоль Сыс зь іх дваіх быў яшчэ «першым жыцьцялюбам» — як ён сам і пісаў.

Моладзевыя актывісты з гомельскай рэгіянальнай арганізацы «Талака» павязалі на помнік Анатоля Сыса нацыянальны ручнік, вытканы супольна па неглюбскіх матывах адмыслова да сьвята паэзіі ў Гарошкаве.

З могілак імпрэза перамясьцілася да роднай хаты Анатоля ў цэнтры вёскі Гарошкаў.

Тут у роднай хаце сабраны кнігі, прыватныя рэчы, карціны, абразы, фатаздымкі, якія акружалі Анатоля Сыса пры жыцьці. Усё гэта зьберагаюць сёстры паэта Тамара, Валянціна, брат Віктар.

Зь нізкага восеньскага неба падчас паэтычных чытаньняў стаў церушыць



першы сьнег. Але на панадворку не пераставалі гучаць вершы Анатоля й прысьвячэньні яму ў выкананьні прысутных беларускіх паэтаў. Барды Тацяна Беланогая й Зьміцер Бартосік сьпявалі песьні.

Згадвалі тут і Алеся Бяляцкага, які ў свой час таксама спрычыніўся да арганізацыі сьвята паэзіі ў Гарошкаве , а цяпер знаходзіцца за кратамі за сваю праваабарончую дзейнасьць і культурніцкую працу.

Старшыня саюзу беларускіх пісьменьнікаў Барыс Пятровіч уручаў нядаўна прынятаму ў творчы саюз маладому паэту Яўгену Сергіенку пасьведчаньне сябра арганізацыі.

Рэй на панадворку вёў паэт і сябра Анатоля Эдуард Акулін:

«Я лічу, што для Беларусі паэзія Анатоля Сыса й ёсьць нейкая духоўная сутнасьць. Такіх паэтаў, як Анатоль, нараджаецца вельмі мала. Я даўно паставіў яго ў адзін рад з такімі творцамі, як Янка Купала, як Максім Багдановіч. Анатоль Сыс для Беларусі — гэта й ёсьць наш беларускі дух».

Украінец беларускага паходжаньня Алесь Хамякоў апавёў, што сваіх землякоў ён знаёміць зь Беларусьсю выключна празь вершы Анатоля Сыса, прадстаўляючы яго самым сапраўдным беларусам.

Старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч, які таксама прыехаў у Гарошкаў, перакананы, што сьвята паэзіі тут будзе неўзабаве адзначацца на дзяржаўным узроўні, а магіла й родная хата Анатоля абавязкова набудуць статус дзяржаўных помнікаў культуры.

У межах сьвята адбылася прэзэнтацыя кніг сэрыі «Кнігарня пісьменьніка»: «Стрэмка» Сержука Сыса, «Сьвятая вада» Ларысы Раманавай, «Около облака» Генадзя Лапаціна, а таксама юбілейнага, 60-га нумара часопіса «Дзеяслоў», у якім ёсьць прысьвячэньні і Анатолю Сысу.

**svaboda.org**

# КС Расіі: Невыкананне рашэнняў Камітэта ААН
## з'яўляецца адмовай прызнаваць правы і свабоды грамадзян




Канстытуцыйны суд Расійскай Федэрацыі пацьвердзіў, што рашэнні Камітэта ААН па правах чалавека, прынятыя па скаргах расійцаў, з'яўляюцца абавязковымі і не вызваляюць Расію ад добрасумленнага і адказнага выканання гэтых рашэнняў у рамках добраахвотна прынятых на сябе міжнародна-прававых абавязацельстваў.

Выдатнае з пункту

>>> 3

2<<<



гледжання беларускіх праваабаронцаў рашэнне вынес Канстытуцыйны суд Расійскай Федэрацыі пад старшынствам Валерыя Зоркіна.

Разглядаючы адно з рашэнняў Камітэта ААН па правах чалавека, прынятым па скарзе расіяніна Андрэя Харашэнка (Харашэнка супраць Расіі), вышэйшы судовы орган РФ падкрэсліў, што стаўшы ўдзельнікам Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах і Факультатыўнага пратакола да яго Расійская Федэрацыя прызнала кампетэнцыю Камітэта па правах чалавека прымаць і разглядаць скаргі яе грамадзян.

«Практыка, якая склалася ў дзейнасці Камітэта па правах чалавека, сведчыць, што ў выпадку ўстанаўлення парушэнняў ён прапануе дзяржаве забяспечыць асобе, якая прызнана ахвярай парушэнняў, выкладзеных у Міжнародным пакце аб грамадзянскіх і палітычных правах, тыя ці іншыя эфектыўныя сродкі прававой абароны (выплаціць належную кампенсацыю, правесці паўторнае судовае разбіральніцтва, неадкладна вызваліць асобу, прызнанай ахвярай з-пад варты і інш)», - канстатуе КС РФ.

«Нягледзячы на тое, што ні Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах, ні Факультатыўны пратакол да яго прама не абавязваюць дзяржавы выконваць меркаванні Камітэта па правах чалавека, гэта не вызваляе Расійскую Федэрацыю ад добрасумленнага і адказнага выканання прынятых рашэнняў. Іншае не толькі ставіла б пад сумненне выкананне РФ добраахвотна прынятых на сябе міжнародных абавязацельстваў, але і сведчыла б аб невыкананні абавязкаў прызнаваць і гарантаваць правы і свабоды чалавека і грамадзяніна, а таксама абяссэнсівала б права кожнага звяртацца ў Камітэт па правах чалавека», - такую прававую пазіцыю выказаў КС РФ.

Выказваючы асцярожны аптымізм, праваабаронца, старшыня Гомельскага аддзялення рэспубліканскага грамадскага аддзялення «Прававая ініцыятыва» Леанід Судаленка называе вызначэнне КС РФ добрым прадвеснікам.

«Пачынаючы з 1992 года Камітэт ААН па правах чалавека прыняў каля чатырох дзясяткаў рашэнняў па скаргах беларускіх грамадзян, якія проста ігнаруюцца з боку чыноўнікаў, закліканых стаяць на абароне правоў і свабод беларускіх грамадзян. Беларускае «чынавенства» ад права называе меркаванні Камітэта ААН «меркаваннем міжнародных экспертаў, якія носяць рэкамендацыйны характар», - заявіў праваабаронца, на рахунку якога звыш дзесятка разгледжаных у ААН скаргаў.

«Наша краіна катастрафічна мае патрэбу ў інвестыцыях, заявіла аб уступленні ў СГА. З іншага боку ні адзін сур'ёзны інвестар не пойдзе ў краіну, у турмах якой томяцца палітычныя зняволеныя, правы і свабоды грамадзян у якой носяць «рэкамендацыйны» характар. Наш найбліжэйшы саюзнік сваё слова аб правах і свабодах чалавека сказаў, паглядзім, што скажуць нашыя правазнаўцы», - падвёў рысу Л. Судаленка.

gomelspring.org



ТВОРЧАСЦЬ

# Таццяна БЕЛАНОГАЯ і Ірына БАГДАНОВІЧ даказалі, што восень бывае цёплай

Марына ДРАБЫШЭЎСКАЯ





Я іду па вуліцы і бачу шэрае неба, апалае лісьце і мінакоў, якія спяшаюцца дадому і ёжацца ад холаду. “Ці заўсёды восень такая цёмна-шэрая і дэпрэсіўна-пустая?” – задаю я сама сабе пытаньне. Чамусьці ні адна восень, з тых што былі пражытыя мною, не прыходзіць на розум як адметная цёплымі ўспамінамі.

Заходжу ў музей гісторыі горада Гомеля, дзе сёньня мусіць адбыцца імпрэза Таццяны Беланогай і Ірыны Багдановіч.

- Вы на мерапрыемства? – нечакана і па-беларуску запытвае ў мяне цётачка-гардэробшчыца.

- Так… – адказваю я неяк зусім разгублена і нясьмела. – А верхнюю вопратку можна ў вас пакінуць?

- Лепш праходзьце так. У нас вельмі халодна, – адказвае цётачка.

“Халодна?”- зноў размаўляе са мной мой унутраны голас. – “Пайшлі лепш дадому ці да сяброў якіх зойдзем, паглядзім фільм які-небудзь цікавы, гарбаты з малінавым сочывам пап’ем. А то, мала таго, што ва ўніверы мяне намарозіла, дык тут яшчэ сядзі дрыжыкі прадавай. Не-не-не! Пайшлі пакуль ня позна!”



Я падаўляю ў сабе жаданьне сысьці дахаты й праходжу ў залю, дзе мусіць адбыцца імпрэза. Добрая частка месцаў ужо занятая, знаходжу вольнае, сядаю. Побач са мной сядзіць жанчына, якая трымае ў руках жоўценькі кляновы лісточак. Чамусьці я прамінаю зараз лета, зеляніну дрэваў і травы,гарачае сонца. Становіцца крышачку цяплей ад гэтых успамінаў.

Неўзабаве распачынаецца мерапрыемства. Ірына Багдановіч – вядомая беларуская паэтэса, перакладчыца і літаратуразнаўца распавядае пра свой новы зборнік “Душа лістападу”:

- Пачаткам гэтага зборніка можна лічыць напісаньне мной асэнсаваньня адносінаў да паэзіі. У ім прадстаўлены вершы-эксперыменты, як рыфмаваныя, так і нерыфмаваныя. Я вельмі люблю рыфмаваныя вершы, але ў працы над зборнікам, мне падалося, што кожны зь вершаў мае права быць такім, якім ён нарадзіўся.

Паэтка чытае некалькі сваіх вершаў, распавядаючы іхныя гісторыі, але больш за ўсё мне запамінаецца верлібр пра верабейчыка, які патрапіўся на шляху Ірыне:

- Аднойчы я вярталася з працы ў архіве былога касьцёла. Я ішла па тратуары і ўбачыла перад сабой вераб’я, які сядзеў і дзяўбаў скарынку. Я вырашыла не кранаць яго, саступіць месца і асцярожненька абыйшла птушку. Пакуль дайшла да метро – верлібр у галаве ўжо быў гатовы, – распавяла гісторыю паэтка.

На працягу вечара я чую яшчэ шмат вартых і прыгожых вершаў пра мову і беларускія словы: пра слова, якім беларусы выказваюць згоду – “ага” , а таксама пра слова-зварот – “васпанства”, чамусьці забытае беларусамі. І, ня гледзячы на холад у залі, на сэрцы адчуваецца нешта цёплае і прыемнае. “А ад холаду фізічнага можна і ў шалік закутацца!” – падбадзёрвае мяне ўнутраны голас – той самы, які прасіўся гадзіну таму дадому.

Слова пераймае Таццяна Беланогая – беларуская паэтка і бард, якая пачынае свой выступ з песьні “Мова” на словы Яўгеніі Янішчыц, што прысьвечаныя беларускаму паэту і грамадскаму дзеячу Нілу Гілевічу. Пасля песьні Таццяна распачынае конкурс-гульню сярод гледачоў. Трэба напісаць оду беларускай мове:

- Ода – гэта такі хвалебны верш, – тлумачыць паэтка для тых, хто магчыма ня ведае. – На

>>> 5

4 <<<

адным мерапрыемстве я папрасіла напісаць оду пра мову і чамусьці аўдыторыя так спужалася гэтага слова, што падчас мерапрыемства ніхто так і не асмеліўся прачытаць нічога. Затое пасьля, каля я патлумачыла, што такое ода, пачалі чытаць! Некаторыя нават па тры оды прачыталі!

І публіка пачынае старанна складаць радкі пра родную мову, у якія кожны ўкладае сваё стаўленьне да яе.

Верш за вершам, песня за песняй вечар падыходзіць да сканчэньня: Тацьцяна Беланогая і Ірына Багдановіч выказваюць сваю падзяку супрацоўнікам музею, кніжнай краме "Букініст", а таксама слухачам і дораць невялічкія падарункі на памяць – уласныя кружэлкі і кнігі, торбачкі і паштоўкі ад кампаніі "Будзьма беларусамі", якая з'яўляецца адным з арганізатараў імпрэзы.

Супрацоўнікі Музея гісторыі горада Гомеля таксама не застаюцца віннымі і дзякуюць Ірыне і Тацьцяне за цёплы вечар, за тое, што змаглі прыехаць, за творчасьць.



"Вось запомні! Запомні, што восень усё ж такі бывае цёплай, светлай і напоўненай яркімі фарбамі. Гэтыя фарбы – родная мова, слова, таленавітыя людзі і іх натхненьне!" – кажа неяк папракаючы той самы голас, што дапякае мяне ўвесь сённяшні вечар. "Ды я і сама ўжо ведаю…, - адказваю з надзеяй, што ён мяне зразумее.

МІЛАСЭРНАСЦЬ

# Яны даюць шанец

Юлія СІВЕЦ



12 тысячаў забітых электратокам штогод. І толькі некалькі сотняў шчасліўчыкаў. Гэта не вайна. Гэта лічбы, якія паказваюць суаднясенне адлоўленых і выратаваных бадзяжных жывёлаў у Гомелі. Мясцовыя валанцёры, на жаль, – не богі. За свае невялікія сродкі ім і так даводзіцца выкупляць у "Спецкамунтранса" катоў і сабак, падбіраць выкінутых і бальных на вуліцах, лячыць, і шукаць новых гаспадароў. Аднак выратаваць усіх бадзяжных жывёлаў немагчыма. Для гэта няма ані адміністрацыйнага рэсурсу, ані матэрыяльных сродкаў, ані фізічных сілаў.

Маккі троху не пашэнціла. Ён не "пародзісты", ён усяго паўкроўка: паміж аўчаркай і звычайным двортэр'ерам. Да таго ж з кепскім слыхам. Ды яшчэ і вялікі сабака. Такіх браць не любяць. Калі б ён быў не надта разумным чыхуахуа за 300 даляраў, які можа навучыцца хадзіць у прыбіральню ў латок у кватэры, яго б набылі. Яго б апраналі ў гламурную вопратку з капелюшом і насілі б у жаночай торбе. Аднак Маккі не такі. Калі б не валанцёры з валанцёрскага руху па абароне бадзяжных жывёлаў, то не вядома, як бы склаўся лёс Маккі. Хутчэй за ўсё вылавіў бы яго "Спецкамунтранс" ды і забіў бы токам.

Маккі, як і 102 яго-ных братоў і сёстраў па няшчасці (бадзяжных сабак і котак), шукалі сабе гаспадароў падчас акцыі "Падаруй ім шанец", якая адбывалася ў ДК "Фестывальны" (г. Гомель).

"Акцыя праходзіць у чацверты раз. І для нашых валанцёраў – гэта магчымасць разгрузіць перетрымкі", -- кажа лідар Валанцёрскага руху па абароне жывёлаў Святлана Лапо.

Перетрымкі – гэта тэрмін, які звычайнаму вуху падасца незнаёмым. Аднак для тых, хто дапамагае жывёлам, гэта звыклае слова. Азначае яно часовае знаходжанне жывёлаў у валанцёраў дома да моманту, пакуль не будуць знойдзеныя гаспадары. За

>>> 6



5 <<<

гэты перыяд валанцёры жывёлу лечаць, кормяць, вучаць жывёльным мудрасцям. Напрыклад, прывучаюць катоў да латка. Часовае ўтрыманне можа зацягнуцца. Асабліва, калі гаворка ідзе пра дарослага сабаку.

"Тэрмінова. Хто можа ўзяць на перадтрымку вулічную котку. З ветлякарняй і кормам дапамагу". "Спадарства, вазьміце ката на перадтрымку". "Шчанюкам патрэбаная дапамога і перадтрымка". – Падобныя абвесткі часта з'яўляюцца на старонцы суполкі валанцёрскага руху. Суполка валанцёраў УКантакце налічвае, між іншым, больш за 6,5 тысячаў чалавек. Хто з НДА можа пахваліцца такім ж а поспехам. Хаця пачыналася ўсё з трох чалавек, якія першапачаткова нават не маглі памарыць аб перадтрымках для жывёлаў. "Зразумела, што не ўсе ўдзельнікі актыўна дапамагаюць. Асноўны касцяк складае чалавек 30", -- распавядае Святлана Лапо. Астатнія могуць дапамагаць разава, альбо час ад часу.

А ўвогуле, заўважаюць валанцёры найбольш, што патрэбна -- гэта перадтрымка жывёлаў, матэрыяльная дапамога (ежа для жывёлаў, якія на перадтрымках, лекі і г.д.), распаўсюд улётак, дапамога на акцыях і інфармацыя сяброў і блізкіх пра праблемы бадзяжных жывёлаў. "Мала хто ведае, што прытулка ў нас няма, і што бяздомныхх проста забіваюць электрычнасцю", -- нагадваюць валанцёры.

На апошняй акцыі "Падаруй ім шанец" прысутнічала больш за 40 валанцёраў. Яны трымалі жывёлаў, распаўсюджвалі інфармацыю, прымалі дапамогу ад гараджанаў, дапамагалі транспартам. А таксама запісвалі пашпартныя дадзеныя новых гаспадароў, якія вырашылі ўзяць сабе ката ці сабаку.

"Ніводную жывёлу мы не аддалі без пашпартных звестак. Калі не было пашпарту, то можна было прадаставіць пасведчанне кіроўцы. Непаўнагадовыя маглі ўзяць сабе жывёлу толькі з пісьмовага дазволу бацьцоў", -- паведаміла валанцёр Марына.

На валанцёрскіх пачатках падчас акцыяў выступаюць заўжды і артысты. Гэта разнастайныя дзіцячыя калектывы, пераможцы конкурсаў і г.д.



"Мы не пішам аніякіх сцэнароў. Звычайна нам тэлефануюць самі артысты і прапаноўваюць выступіць. А ўсё астатняе ідзе ад душы", – дзеліцца тайнамі падрыхтокі да мерапрыемства Святлана Лапо.

Але самае складанае ў акцыі – гэта, канешне, не канцэрт. Самае складанае – гэта знайсці памяшканне і падрыхтаваць жывёлаў для акцыі. Зразумела, грошай на арэнду памяшкання ў валанцёраў няма. Таму ў гэтым пытанні даводзіцца цалкам спадзявацца на мясцовыя ўлады. Гэтым разам памяшканне прадаставіла адміністрацыя Савецкага раёну.

Складанасці маюцца і з падрыхтоўкай непасрэдна саміх жывёлаў да акцыі. "Існуюць бюракратычныя моманты, якія мы вымушаныя выконваць, – заўважае Святлана Лапо. – Па-першае, усе жывёлы мусяць быць вакцынаваныя ад шаленства. Па-другое, за некалькі дзён да акцыі неабходна ўзяць на кожную жывёлу ветдаведку дзяржаўнага ўзору, якія бяруцца толькі ў гарветстанцыі. З прыватных клінік даведкі не падыходзяць". І тут ужо дапамога дзяржавы заканчваецца. Аплочваюць ветдаведкі валанцёры самі. А адна даведка каштуе каля 20 тысячаў.

Падчас акцыі было раздадзена каля 70 жывёлаў. А зарэгістравана больш за 100. То бок большая частка знайшла сваіх гаспадароў. Валанцёры спадзяюцца, што назаўжды. І такіх, хто найграўшыся з катом ці сабакам, верне іх назад, не будзе. Астатнія трыццаць жывёлаў вярнуліся на перадтрымкі да валанцёраў. Сярод іх і Маккі.

# СМІ паведамляюць

**01.10.2012**
**gomelcivil.org:**
«Актывісты грамадзянскай кампаніі "Хопіць піць – трэба жыць" ударылі аматарскім спортам па алкагалізме. У нядзелю на стадыёне, што знаходзіцца насупраць цэнтральнага пляжа ў Чонках, прайшлі футбольныя баталіі. Што праўда, спаборніцтвы ледзьве не сарваліся з-за неспрыяльнага надвор'я. Аднак восеньскі дождж не астудзіў імпэту прыхільнікаў здаровага ладу жыцця. Некалькі чонкаўскіх маладзёнаў і гамельчукоў правялі пару таварыскіх паядынкаў на кубак "Хопіць піць". Удзельнікі сустрэчы атрымалі сімвалічныя падарункі ад ініцыятараў спаборніцтваў у выглядзе саколак з лагатыпам кампаніі. Як распавёў адзін з арганізатараў турніра Кастусь Жукоўскі, у далейшым падобныя сустрэчы будуць ладзіцца рэгулярна, бо моладзь павінна бачыць пазітыўную альтэрнатыву кепскім звычкам».

**01.10.2012**
**gomelcivil.org:**
«Крос-кантры гонка «На ўзьлёт» для раварыстаў, арганізаваная супольнасьцю «ВелаГомель», адбылася ў гэтую суботу ў Гомелі. Мерапрыемства праходзіла блізу ДК «Віпра», што знаходзіцца па вуліцы Юбілейнай. У гонцы ўзялі ўдзел каля 30 раварыстаў, якія падзяліліся на катэгорыі «ветэраны», «жанчыны», «юнакі» і «экспэрты». Мэтай мерапрыемства была прапаганда здаровага ладу жыцьця і папулярызацыя веласпорту…».

МУЗЫКА

# Гурт Re1ikt прэзентаваў новую праграму ў Гомелі



Мінскі гурт Re1ikt адыграў канцэрт у Гомелі.

Выступ у клубе «Імперыя» адбыўся ў межах туру па падтрымцы кампаніі «Будзьма беларусамі!».

Удзельнікі Re1ikt раней жылі ў Гомелі і запісалі тут 2 альбомы, у тым ліку і «Рэкі прабілі лёд», які быў выпушчаны ў 2011 годзе і стаў бэстсэлерам сярод беларускіх рэлізаў лэйбла Vigma. Таксама ў Гомелі быў зняты відэакліп на песню «Рэкі пад ільдом», у якім былі задзейнічаныя і маладыя гомельскія дзеці. За год кліп сабраў каля 6 тысяч праглядаў на YouTube.

Выступ Re1ikt стаў своеасаблівай паўакустычнай прэзентацыяй альбома «Рэкі прабілі лёд». Акрамя таго, музыкі прадставілі новы матэрыял і выканалі найлепшыя старыя песні.

Таксама ўдзельнікі Re1ikt правялі сярод гледачоў розыгрыш тэматычных прызаў ад кампаніі «Будзьма беларусамі!». Але падарункі на гэтым не скончыліся: усе ахвотныя могуць прыняць удзел у конкурсе «Быць беларусам: адшукай свой Re1ikt» і выйграць сувеніры і атрыбутыку.

Ужо праз некалькі тыдняў гурт адыграе яшчэ некалькі выступаў у Беларусі: на чарзе Менск, Барысаў ды Магілёў. А таксама выправіцца ў Польшчу, дзе дасць некалькі канцэртаў і пакажа новы незвычайны праект.

Re1ikt у сваёй музыцы спалучае такія кірункі, як progressive rock, post rock, art rock і alternative rock. Група валодае ўнікальным гучаннем, пры гэтым падчас запісу і выступаў выкарыстоўваецца толькі стандартнысклад «жывых» прылад (2 гітары, бас, ударныя) і вакал. На канцэртах Re1ikt гарманічна спалучаюць магутны драйв кампазіцый імправізацыйнымі эксперыментамі з гукам. Нярэдка калектыў дае акустычныя выступы, гуляе на кватэрніках і «музейніках».

За час існавання каманда паспела паўдзельнічаць у фэстах у Польшчы, Літве, Украіне, Беларусі. Сярод іх Tautu Muge, Halfway Festival,Jesien Bardow, а таксама «Камяніца», «Дах», Heavy Mass Medium і інш.

Група Re1ikt брала таксама ўдзел у праектах і конкурсах «Больш ні гуку!» (кампанія ААН супраць хатняга гвалту), «Музычны Спарынг-2» (перамога ў намінацыі «Альтэрнатыва» і «Лепшы вакал»), Global Battle of the Bands, «Graffiti Open Fest», «Ноч Музеяў», перамагала з акустычнай праграмай на «Бардаўскай восені - 2009» (Гран-пры), «Купалаўскіх вакацыях» (Прыз глядацкіх сімпатый).

На рахунку ў Re1ikt 3 студыйных альбома. «Рэкі прабілі лёд» («Вігма», 2011) і «Клініка» (Go Records, 2009) былі афіцыйна выдадзены на лэйблах. Таксама Re1ikt знялі 4 відэакліпа, выпусцілі 2 live-DVD («Акустычная Тэрапія», «Крыгаход»), акустычныя складанкі («Vytoki», «Home Songs»).

Будзем спадзявацца, што таленавітыя хлопцы з гэтага цудоўнага гурта не забудуцца пра родны ім Гомель і шчэ неаднаразова завітаюць да нас у госці!

**nashkraj.info**



СПАДЧЫНА

# Сьвята ручнікоў у Неглюбцы

На Гомельшчыне нарадзілася новае сьвята — сьвята беларускага ручніка.

З ініцыятывы абласнога ўпраўленьня культуры такое сьвята 6 кастрычніка ладзілі ў вёсцы Неглюбка Веткаўскага раёну.

Вёска гэтая здавён славіцца сваімі традыцыямі ткацтва. Неглюбскім ручнікам, вытканым тутэйшымі майстрыхамі на драўляных кроснах, дзівіліся на міжнародных выставах у Нью-Ёрку, Манрэалі, Парыжы, Брусэлі, Токіё. Неглюбскія ручнікі пабралі залатыя мэдалі шматлікіх музэяў сьвету, адзін зь іх упрыгожвае нават залю Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

«Я й сама ткала ручнікі, — згадвае 83-гадовая Палагея Прыходзька. — У нас, лічы, у кожнай хаце ручнікі. І нідзе моды прыгажэйшай не было. Некалі без ручніка ніводная дзяўчына замуж не выходзіла. І хусьцінкі такія прыгожыя выраблялі, і павалакі, і кашулі. У нас такія знатныя майстрыхі: Настасься Хрушчова, Фрося Дзямчыхіна, Настасься Сарасека. Багата было і старэйшых, але многіх ужо няма з намі».

У вясковым сквэры, што побач зь селькім Домам культуры, — сапраўдны музэй беларускіх ручнікоў пад адкрытым небам. Арганізатары пастараліся, каб на сьвяце былі прадстаўлены ня толькі неглюбскія ручнікі, але й такія ж вырабы зь іншых мясцовасьцяў. Прывезьлі свае ручнікі й паясы майстрыхі з Акцябрскага, Лельчыцкага, Нараўлянскага, Кармянскага, Рэчыцкага, Сьветлагорскага раёнаў.



Пад адкрытым небам паказвалі свае ўменьне ткаць Тацяна Суглоб, Людміла Кавалёва зь Неглюбкі, Марыя Плех зь вёскі Данілавічы Лельчыцкага раёну. Паясы прынародна ткала Марыя Сарнаўская з райцэнтру Акцябрскі.

«Такія этнакультурныя сьвяты, дэманстрацыя тканых і вышываных ручнікоў дапамогуць падняць цікавасьць у моладзі да такога старадаўняга й прыгожага рамяства, як ткацтва. Скажу нават больш — у мяне ў гурток пры Доме культуры пачалі хадзіць ня толькі дзяўчынкі, але й хлопчыкі», — кажа Тацяна Суглоб.

Традыцыям мясцовага ткацтва навучае дзяцей у сельскім Доме культуры й Людміла Кавалёва. Сама яна з Брагіншчыны, выйшла замуж за неглюбскага хлопца і тут навучылася ткаць выдатныя ручнікі.

На сьвяце ў Неглюбцы ня толькі паказвалі ручнікі, але й услаўлялі іх у песьнях, якія прывезьлі сюды народныя калектывы з розных куткоў Гомельшчыны.

svaboda.org





ИНФОРМАЦИОННЫЙ БЮЛЛЕТЕНЬ

**Учредитель и редактор Василий ПОЛЯКОВ**
**А/я 28, 246003, Гомель. E-mail: vpalia@tut.by. Тираж 299 экз.**
**Отпечатано на личном оборудовании. Распространяется бесплатно.**